


Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 3 (сакавік), 2014


# Мяжа




**96 гадоў таму, 25 сакавіка,**
**была абвешчана незалежнасць БНР**

(старонка 15)

# ЗЬМЕСТ

# Брэст: суд адмовіўся разглядаць адміністрацыйную справу, распачатую ў дачыненні да кіраўніка абласной арганізацыі АГП

Старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек

Адпаведны пратакол, складзены прадстаўнікамі ідэалагічнага аддзелу Брэсцкага гарвыканкама ў адносінах да лідара мясцовай суполкі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ўладзіміра Вуека, вернуты назад.

Як распавёў сам Уладзімір Вуек, пратакол аб нібыта здзейсненным адміністратыўным правапарушэнні датычыўся праведзенага 30 студзеня ў Брэсце пікета ў падтрымку вылучэння кандыдатам у дэпутаты гарадскога Савета Дыяны Касцюковіч, якая з'яўляецца сябрам АГП. "Спачатку супрацоўнікі міліцыі спрабавалі абвінаваціць нас у тым, што пікет адбываецца ў забароненым месцы ў цэнтры горада, - кажа Вуек. – Калі ж мы здолелі пераканаць, што гэта не так, у наступныя дні пасля пікета некаторых яго ўдзельнікаў пачалі выклікаць у міліцэйскі пастарунак альбо супрацоўнікі праваахоўных органаў самі прыходзілі на працу да нашых актывістаў. Падчас гэтых сустрэч былі высунутыя іншыя прэтэнзіі: маўляў, збіраліся подпісы не толькі за вылучэнне кандыдата ў дэпутаты, але і за адмену новай пошліны на аўтамабілі, акрамя таго, ажыццяўляўся распаўсюд партыйнага бюлетэня "Голас розуму". Пры гэтым аргументавана адказаць, якую норму закона мы парушылі, міліцянты не здолелі".

У выніку, як дадаў кіраўнік брэсцкай арганізацыі АГП, адміністрацыйны пратакол быў складзены не міліцыянтамі, а ідэолагамі. Чыноўнікі з гарвыканкаму палічылі, што ўдзельнікі пікета парушылі закон, бо не ўзгаднілі фармат мерапрыемства ў адпаведнасці з новай пастановай Цэнтрыбаркаму. Аднак у судзе Ленінскага раёна Брэста, вывучыўшы пратакол, вырашылі, што складзены ён неахайна і вярнулі да гарадскіх уладаў. Ці будуць мясцовыя ідэолагі перарабляць пратакол альбо зачыняць гэтую справу, пакуль невядома.

*http://spring96.org/be/news/69448*

# У Берасці прысудзілі штраф за распаўсюд бюлетэняў падчас пікету

Штраф у дзве базавыя велічыні за распаўсюд бюлетэняў падчас дазволенага пікету прысудзілі старшыні Берасцейскай абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Уладзіміру Вуеку. Суд вырашыў, што ў час пікету можна толькі збіраць подпісы за кандыдатаў, а распаўсюд партыйнага бюлетэня - гэта агітацыя.

Палітык упэўнены, што ўдзельнікі пікету закона не парушалі, а ўлада выкарыстоўвае ўсе сродкі, каб людзі не атрымалі інфармацыю пра фальсіфікацыі ў час выбараў:

- У нашым партыйным бюлетэні “Голас розуму” адлюстраваная пазіцыя партыі. Такая форма нідзе ў выбарчым заканадаўстве не забараняе нам праводзіць пікеты і раздаваць нашыя партыйныя бюлетэні. Верагодней за ўсё, што меркаванне грамадзянскага альянсу “Талака” вельмі не падабаецца дзейснай уладзе. Мы робім акцэнт на такіх вострых пытаннях, як адсутнасць у краіне свабодных і сумленных выбараў, мы кажам пра тое, што залежыць ад дэпутата і што для гэтага трэба рабіць. Гэта не задавальняе ўлады, якая робіць усё, каб знізіць актыўнасць.

Пікет у Берасці прайшоў у канцы студзеня ў межах збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад кааліцыі “Талака”. Мерапрыемства ладзілася каля Цэнтральнага ўнівермагу з боку вуліцы 17-га верасня.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=22620#.UxjiIs4qMZI*

# Уладзімір Вялічкін: Кандыдаты не гатовыя да выпрабаванняў

У Берасці працягваюць здымаць свае кандыдатуры кандыдаты ў мясцовыя Саветы. Гэтым разам у іх шэрагу апынулася дванаццаць чалавек, большасць з іх - настаўнікі. Пра гэта паведаміў незалежны назіральнік, праваабаронца Уладзімір Вялічкін. Па яго словах, прычыны, каб сыйсці розныя, але ўсіх іх аб’ядноўвае непадрыхтаванасць да выбараў:

- У сваіх заявах яны пераважна пішуць “па асабсітым жаданні”, “па сямейных абставінах”, “па стану здароўя”… У іх першапачаткова не было жадання ісці ні на якія выбары, хтосьці ім “параіў”. А калі дайшло да выбараў, то яны напалохаліся: гэта ж па радыё трэба выступаць, трэба рыхтаваць матэрыялы для агітацыі. Для іх гэта занадта цяжка, такія кандыдаты не гатовыя да выпрабаванняў, яны проста сыходзяць.

Такім чынам, за агітацыйны перыяд стала на дваццаць кандыдатаў у дэпутаты у мясцовыя Саветы горада Берасця менш. Засталося крыху больш за сотню прэтэндэнтаў на амаль чатыры дзесяткі акругаў.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=22634#.Uxoicudb_xh*

## Праваабаронца: Улада і Канстытуцыйны суд проста плююць на нас

Праваабаронцы Берасцейшчыны Сяргей Гоўша і Уладзімір Малей лічаць, што ў Беларусі больш няма куды звяртацца, каб дамагчыся выканання краінай рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН.

Апошняй інстанцыяй быў Канстытуцыйны суд, які адмовіўся ініцыянаваць прапанову праваабаронцаў, каб выкананне ўладамі рашэнняў стала абавязковым, кажа Сяргей Гоўша:

- Мы атрымалі адпіску з Канстытуцыйнага суда. Вось калі мы лічым, што ў нас не ўрэгулявана заканадаўства, то мы самі павінны накіроўваць свае прапановы і ўносіць адпаведныя змены ў дзяржаўныя органы. Улада і Канстытуцыйны суд проста плююць на нас і нашы правы.

Праваабаронца Уладзімір Малей:

- Мы раім уладам Беларусі адмовіцца ці выйсці з гэтай міжнароднай дамовы, аднак яны не выходзяць і не выконваюць.

Паводле праваабаронцаў, ад беспакаранасці беларускія ўлады з лёгкасцю парушаюць правы чалавека. Іх не турбуе, што ігнараванне рашэнняў Камітэта пагаршае негатыўны імідж краіны на міжнародным узроўні.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22739#.Ux9GOudb_xh*

## Праваабаронцы: Як зрабіць, каб рашэнні Камітэта па правах чалавека ААН сталі ў Беларусі абавязковымі?

Праваабаронцы Берасцейшчыны Сяргей Гоўша і Уладзімір Малей лічаць, што ў Беларусі больш няма куды звяртацца, каб дамагчыся выканання краінай рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН.

Апошняй інстанцыяй быў Канстытуцыйны суд, які адмовіўся ініцыяваць прапанову праваабаронцаў, каб выкананне ўладамі рашэнняў Камітэта стала абавязковым.

Сяргей Гойша:

- Адпіску атрымалі з Канстытуцыйнага суду. Маўляў, калі мы лічым, што ў нас неўрэгулявана заканадаўства, то хай мы самі накіроўваем свае прапановы і ўносім адпаведныя змены ў дзяржаўныя органы. І ўлада, і Канстытуцыйны суд проста плююць на нашыя правы.

Уладзімір Малей:

- Мы раім Беларусі адмовіцца і выйсці з гэтай міжнароднай дамовы. Аднак яны не выходзяць і не выконваюць.

Паводле праваабаронцаў, ад беспакаранасці беларускія ўлады з лёгкасцю парушаюць правы чалавека. Іх не турбуе, што ігнараванне рашэнняў Камітэта паглыбляе адмоўны імідж краіны на міжнародным узроўні.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22757#.UyCZjOdb_xh*

## Брэст: суд пакараў удзельнікаў агітацыйнага пікету аднаго з кандыдатаў у дэпутаты

Лідэр Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек аштрафаваны на 25 базавых велічынь, а актывісты гэтай партыі Дыяна Касцюковіч і Юры Жыдовіч - на 10 базавых велічынь кожны.

Яны былі пакараны за пікет, які быў ініцыяваны Аб'яднанай грамадзянскай партыяй і адбыўся на вуліцы Савецкай у Брэсце 24

лютага. Тады, нягледзячы на выказаныя супрацоўнікамі праваахоўных органаў заўвагі, што акцыя ладзіцца ў месцы, якое рашэннем гарадскіх уладаў не можа выкарыстоўвацца для пікетавання, абышлося без затрыманняў. Аднак міліцыянты перапісалі пашпартныя дадзеныя ўдзельнікаў пікета і неўзабаве на іх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні за правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Суд пагадзіўся з высновамі супрацоўнікаў міліцыі і аштрафаваў актывістаў АГП.

“Мы спасылаліся на Асноўны закон, а менавіта на артыкул 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая гарантуе права на мірныя сходы, мітынгі, шэсці, - распавёў Уладзімір Вуек. - Аднак суд гэта праігнараваў нашы аргументы, як не стаў ўлічваць і палажэнні выбарчага заканадаўства, якое дазваляе правядзенне падобных мерапрыемстваў у агітацыйны перыяд - бо гэта быў менавіта пікет нашага кандыдата ў дэпутаты. Акрамя таго, суд не прыняў да ўвагі той факт, што мы папярэдзілі Брэсцкі гарвыканкам аб дадзеным мерапрыемстве і ніхто нам адтуль не паведаміў, што гэта рабіць забаронена. Да таго ж менавіта на гэтым месцы, на вуліцы Савецкай, нядаўна ладзілі свой пікет актывісты іншай палітычнай партыі - БСДП (Грамада), і ніякіх перашкод не было” .

*http://spring96.org/be/news/69738*

## У Берасці распаўсюджвалі брашуру з рашэннем Камітэта па правах чалавека ААН

Дзяржава Беларусь у чарговы раз праігнаравала патрабаванне Камітэта па правах чалавека ААН. Улады не надрукавалі і не распаўсюдзілі вынік разгляду Камітэтам па справе расстралянага за тэракт у менскім метро Уладзіслава Кавалёва, кажа праваабаронца Раман Кісляк. Ён разам з праваабаронцам Дзмітрыем Рабцэвічам распаўсюджвалі брашуры з рашэннем у Берасці.

Раман Кісляк:

- Маці Уладзіслава Кавалёва, Любоў Кавалёва, вымушана была за свае сродкі апублікаваць гэтае рашэнне. Прыкладна за гадзіну мы распаўсюдзілі каля 16 асобнікаў. Большасць людзей брала, мала хто адмаўляўся. Многія самі казалі, што вельмі шмат паўставала ў іх пытанняў адносна гэтай справы, многія сумняваліся ў вінаватасці хлопцаў у датычнасці да тэракта.

Па словах Рамана Кісляка, яны стаялі паблізу абласнога суда ў канцы рабочага дня ў надзеі, што брашурамі зацікавяцца судзейскія работнікі і пракуроры. Але гэтага не адбылося.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22853#.UySbPedb_xh*

## У Бярозе змагаюцца за пікет на Дзень Волі

Бярозаўскія заяўнікі пікета не змаглі заключыць дамову з міліцыяй на абслугоўванне пікета 25 сакавіка, паколькі райвыканкам не выканаў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №207.

Па гэтай пастанове трэба было звярнуцца ў міліцыю, каб абмеркаваць пытанні па абслугоўванні пікета пасля падачы актывістамі заявы на пікет.

Са скаргамі заяўнікі звярнуліся ў вышэйшыя праваахоўныя органы, кажа праваабаронца Сяржук Русецкі:

- Таму мы звяртаемся са сваімі лістамі ў абласную ўправу ўнутраных спраў, каб яна абавязала Бярозаўскі РАУС заключыць з намі дамову. Звяртаемся ў Міністэрства юстыцыі, каб усё ж такі была варашана гэтая калізія. Хто ўсё ж такі мае рацыю, міліцыя, якая з’яўляецца аддзелам райвыканкама ці юрыст райвыканкама? Калі праўда на баку міліцыі, то каб райвыканкам усё ж такі ўнёс змены ў сваё рашэнне.

Паводле слоў Русецкага, заявы былі накіраваныя ў пракуратуру Бярозаўскага раёна і райвыканкам, каб усё ж такі была магчымасць аформіць дамову з міліцыяй, паколькі дамовы з бальніцай і камунальнай гаспадаркай былі заключаны.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22979#.Uyn0Ts4qMZI*

## Брэст: кандыдаты лічаць, што выкарыстанне бюлетэняў без выходных дадзеных дае магчымасці для фальсіфікацый

Так, кандыдат у дэпутаты Брэсцкага гарсавета Аляксандр Мельнік звярнуўся з гэтай нагоды ў абласную пракуратуру і патрабуе правесці праверку па факту выкарыстання такіх бюлетэняў на ўчастку для галасавання па выбарчай акрузе №31.

Падобную з'яву, калі ўсе бюлетэні не маюць выходных дадзеных, назіраюць і іншыя прэтэндэнты на дэпутацкі мандат на розных выбарчых участках у Брэсце. “Атрымліваецца, што яўку выбаршчыкаў можна зрабіць і 400%, а кандыдаты ад улады атрымаюць 399%” , - іранічна заўважае вылучэнец ад БСДП (Грамада ) Ігар Маслоўскі Маслоўскі.

У сваёй заяве ў пракуратуру Брэсцкай вобласці Аляксандр Мельнік просіць таксама разабрацца, ці з'яўляецца адсутнасць на бюлетэнях выходных дадзеных парушэннем Закона аб друку, бо кандыдат у дэпутаты мяркуе, што такім чынам Брэсцкая друкарня праігнаравала правілы прыёму і выканання заказаў. “Я патэлефанаваў у друкарню, дзе мне паведамілі, што ніколі не друкуюць выходныя дадзеныя на выбарчых бюлетэнях. На маё пытанне чаму так атрымліваецца, адказалі: пытайцеся ў аблвыканкаме”, - паведаміў Мельнік.

*http://spring96.org/be/news/69926*

## Уладзімір Вялічкін: Выяўленыя парушэнні - глеба для маштабных фальсіфікацый




У Берасці працягваецца датэрміновае галасаванне, а назіральнікі ад палітычных партый дэмакратычнага кірунку і грамадскай супольнасці фіксуюць парушэнні.

На дадзены момант ужо

пададзеныя скаргі да камісіі па такіх пытаннях як адсутнасць зыходных звестак на бюлетэнях, незаконных адмовах у рэгістрацыі назіральнікаў, адсутнасці інфармацыі пра колькасць прагаласаваўшых.

Незалежны назіральнік Уладзімір Вялічкін распавёў пра свае ўражанні за хадою выбарчага працэсу:

- З маіх асабістых назіранняў я бачу тры такія цікавыя моманты: паўсюль аднолькавыя металічныя пячаткі; пламбуюцца скрыні пластылінам; паўсюль бюлетэні без выходных звестак – невядома хто і колькі іх надрукаваў. Я лічу, што ў сукупнасці гэтых трох фактараў ёсць сур’ёзныя апасенні і глеба для маштабных фальсіфікацый на выбарах.

Датэрміновае галасаванне ў Беларусі працягнецца да 22 сакавіка. У сярэднім, па звестках камісій і незалежных назіральнікаў, у дзень на ўчастак прыходзіць галасаваць ад аднаго да некалькіх дзясяткаў чалавек.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=23010#.UyyGEedb_xh*

## Апошні перадвыбарчы пікет у Берасці



За бясплатную адукацыю і медыцыну, а таксама за будаўніцтва новых дзіцячых садоў і школаў агітавалі ў Берасці. Тут сябры Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) разам з актывістамі кампаніі “Гавары Праўду!” правялі апошні пікет у рамках мясцовай кампаніі.

Адзін з галоўных арганізатараў мерапрыемства, кандыдат у дэпутаты Валянцін Лазарэнкаў патлумачыў асноўныя мэты сустрэчы з выбаршчыкамі:

- Была магчымасць азнаёміцца і з улёткамі, і матэрыяламі кандыдатаў. Ужывую паглядзець на мяне. Нехта кажа, што будзе галасаваць. Ёсць хто і супраць. Самы важны момант – гэта сустрэчы з выбаршчыкамі ўжывую і пад нашымі сімваламі.

Сустрэча прайшла ў дазволеным уладамі месцы каля крамы “Прадтавары №2” па вуліцы Валгаградскай. Перашкодаў з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў не было.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=23014#.UyyGEedb_xh*

## У Берасці прайшоў круглы стол прысвечаны смяротнаму пакаранню

На тэму смяротнага пакарання разважалі ў Берасці, дзе прайшоў круглы стол пад назвай “Быць альбо не быць?”. Яго ініцыятарамі выступілі сябры Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Удзельнікамі мерапрыемства сталі чытачы незалежных сродкаў масавай інфармацыі, журналісты, палітыкі і грамадскія дзеячы. Адзін з галоўных арганізатараў мерапрыемства, прэс-сакратар БАЖ Барыс Гарэцкі патлумачыў асноўныя мэты сустрэчы:

- Другі год Беларуская асацыяцыя журналістаў цікавіцца меркаваннем чытачоў розных незалежных выданняў на тэму смяротнага пакарання. Мы сустракаемся з чытачамі, журналістамі, абмяркоўваем праблему недахопу інфармацыі. Мы сустракаемся і праводзім гэтыя сустрэчы дзеля таго, каб паразмаўляць з чытачамі, з грамадскімі актывістамі пра тое, як мы можам даносіць інфармацыю пра праблему смяротнага пакарання, якая інфармацыя

неабходна грамадству.

Берасцейскі праваабаронца Раман Кісляк перакананы, што грамадству трэба даваць больш інфармацыі на тэму смяротнага пакарання ў Беларусі:

- Раней ці пазней мы прыйдзем да адмены смяротнага пакарання. Трэба прыкладаць з боку праваабаронцаў усе высілкі, каб гэта здарылася як мага хутчэй. Мала інфармацыі даходзіць да людзей пра тое, як ужываецца смяротнае пакаранне, як асуджаюць на такое пакаранне, як пасля ставяцца да родных пакараных.

Удзельнікі мерапрыемства паспрабавалі знайсці адказы на шэраг пытанняў. Сярод іх: “Як адбываецца следства?”, “Па якіх крытэрах выносяць прысуд?”, “Як ён прыводзіцца ў выкананне, і як да гэтага ставіцца грамадства, Рада Еўропы, АБСЕ ды праваабаронцы?”, “Што ведае пра смяротнае пакаранне грамадства і ці трэба пра гэта пісаць?” ды іншае.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=23044#.UyySlOdb_xg*

## Пікет дазволілі, а пасля - забаранілі



Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты – заяўляльнікі пікету на 25 сакавіка – нядоўга радаваліся таму, што мясцовы райвыканкам, у прыватнасці выконваючы абавязкі старшыні райвыканкама Міхаіл Крэйдзіч, даў дазвол на пікет, хоць і быў перанесены ў бязлюднае месца. Пісьмовае

распараджэнне пра дазвол атрымана 21 сакавіка.

Нечакана раніцай 22 сакавіка ў пачатку 10 нарочным дастаўлена другое распараджэнне, якое адмяняла першае. Прычына адмовы – прапаганда нацыянальнай варожасці, кажа адзін з заяўнікаў пікету Сяржук Русецкі:

- Відаць, нешта недзе праглядзелі. Хоць ізноў жа забарона датаваная 20 сакавіка, а ліст адпраўлены і дайшоў 22 сакавіка. Стараліся, каб адказ атрымаўся за 5 дзён да запланаванага мерапрыемства. Учора было 21 і ніякай размовы пра забарону не было. Трэба будзе падчас судовага разбіральніцтва высвятляць, што канкрэтна яны мелі на ўвазе пад распальваннем нацыянальнай варожасці?

Заяўва на пікет падавался 7 сакавіка. Мэта пікету - адзначэнне 96-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, выказванне пратэсту супраць увядзення Расейскай Федэрацыяй сваіх войскаў на тэрыторыю незалежнай Украіны і размяшчэння расейскіх ваенных базаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, патрабаванне вызвалення

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=23051#.Uy3Rt-db_xh*

## Брэсцкія сацыял-дэмакраты падалі 20 скаргаў аб парушэннях на выбарах

Яны просяць прызнаць несапраўднымі выбары ў мясцовыя саветы па 20 акругах.

Пра гэта Еўрарадыё распавёў каардынатар выбарчай кампаніі Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду” Ігар Маслоўскі:

Маслоўскі: "Больш чым па 20 выбарчых акругах у Брэсце кандыдаты ў дэпутаты ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і кампаніі “Гавары праўду” падалі заявы ў тэрытарыяльныя камісіі аб прызнанні выбараў несапраўднымі. Мы сёння, у Дзень Волі, 25 сакавіка, зрабілі такі практычны акт —

падалі 20 скаргаў за правы грамадзян".

Брэсцкія сацыял-дэмакраты склалі свой спіс парушэнняў. Па-першае, рашэнне гарвыканкама пра месцы, забароненыя для пікетавання, было надрукаванае за 4 дні да заканчэння збору подпісаў, якія збіралі ў тым ліку і на пікетах. Па-другое, выбарчыя бюлетэні не мелі выходных звестак. Па-трэцяе, за тры дні да асноўнага дня выбараў у абласной газеце “Заря” быў апублікаваны матэрыял, які дыскрэдытуе БСДП. Па-чацвёртае, выбарчыя камісіі ўсяляк заміналі працы назіральнікаў.

З гэтага вынікае, што выбары не былі ні празрыстымі, ні адкрытымі, ні галоснымі, падсумоўвае Маслоўскі.

*http://euroradio.fm/bresckiya-sacyyal-demakraty-padali-20-skargau-ab-parushennyah-na-vybarah*

## У Брэсце затрымалі праваабаронцу, які ладзіў адзіночны пікет

Акцыя праходзіла 28 сакавіка ля будынка абласной пракуратуры.

Брэстаўчанін Дзмітрый Рабцэвіч выйшаў на вуліцу з плакатам "Не — хуткім расстрэлам!" каля 17.30. Прыкладна праз 10 хвілінаў яго затрымалі міліцыянты.

Як паспеў паведаміць Еўрарадыё Дзмітрый Рабцэвіч, мэта акцыі — прыцягнуць увагу да праблемы паскоранага выканання смяротнага прысуду ў краіне.

Брэсцкія праваабаронцы прапанавалі ўнесці змены ў Крымінальна-выканаўчы кодэкс. Адпаведны законапраект, які прадугледжвае 5 гадоў адтэрміноўкі пасля вынясення смертнага прысуду, яны даслалі 28 сакавіка ў Савет міністраў.

Рабцэвіч: "Акцыя накіравана на тое, каб даць пяцігадовую адтэрміноўку тым людзям, якія трапілі ў тую ці іншую сітуацыю, і на магчымасць іх слушнага судовага разбіральніцтва, на выкананне ўсіх правоў заканадаўства. Каб ва ўсіх быў шанец".

Зараз мужчына знаходзіцца ў Ленінскім РУУС. Сувязь з ім адсутнічае.

*http://euroradio.fm/u-bresce-zatrymali-pravaabaroncu-yaki-ladziu-adzinochny-piket*

# Праваабаронца Алесь Бяляцкі - трэцяя вясна за кратамі

Праваабаронца Алесь Бяляцкі быў арыштаваны ў жніўні 2011 года, да суда знаходзіўся ў сумнавядомым СІЗА №1 – на вуліцы Валадарскага ў Менску (Пішчалаўскі замак), пасля ў СІЗА г. Жодзіна, а пасля ў папраўчай калоніі-2 ў Бабруйску. І вось пайшла трэцяя вясна за кратамі.

У лісце ад 1 сакавіка Алесь Бяляцкі піша:

- Роўна два гады, як выгрузілі мяне ў Бабруйску. Чарговая памятная дата. І гэта ўжо будзе трэцяя бабруйская вясна. Апошнія тыдні падзеі ва Украіне займаюць увагу і думкі: у асноўным пра тое, як там будзе далей….

Алесь Бяляцкі - віцэ-прэзідэнт FIDH, кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна». Мужная і паслядоўная пазіцыя Алеся Бяляцкага па адстойваньні правоў чалавека ў Беларусі і ва ўсім свеце адзначалася шматлікімі міжнароднымі ўзнагародамі. Алесь Бяляцкі пяць разоў вылучаўся на Нобелеўскую прэмію Міру, а ў 2007, 2012-ым і ў 2013 годзе годзе яго кандыдатура ўвайшла ў шорт-ліст Нобелеўскай прэміі.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=22582#.Uxd5hudb_xh*

# 96 гадоў таму, 25 сакавіка, была абвешчана незалежнасць БНР

96 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 г., а 8-й раніцы ў акупаваным немцамі Мінску, ў будынку па адрасе Серпухаўская, 9 (сённяшняя Валадарскага, 9) была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэта падзея мела вялікае значэнне. У адказ бальшавікі вымушаныя былі стварыць БССР, і кола гісторыі заварушылася.

Праз 73 гады, у 1991 годзе, незалежнасць стала рэальнасцю.

Першы Дзень Волі адзначаўся ў Менску ўжо ў 1920 г., яго масава адзначала моладзь у Заходняй Беларусі ў 1920-1930-я гады, 25 Сакавіка было галоўным святам на эміграцыі.

У сучаснай Беларусі дэмакратычная грамадскасць традыцыйна ладзіць у гэты дзень шэсце і мітынг.

Цяпер Дзень Волі адзначаецца ў фармаце шэсця ад кінатэатра «Кастрычнік» да Парка Дружбы народаў.

Сёння, у аўторак, збор удзельнікаў акцыі пачнецца а 18.00 каля кінатэатра «Кастрычнік» (станцыя метро «Акадэмія навук»), затым адбудзецца шэсце па праспекце Незалежнасці і вуліцы Сурганава да парку Дружбы Народаў, дзе з 19.30 да 20.00 павінен прайсці мітынг. Арганізатары заклікалі прыносіць украінскія сцягі, у знак салідарнасці з братнім народам.

У Вільні на 25 сакавіка запланаваныя тры ўрачыстасці.

З 12:00 да 12:30 адбудзецца ўскладанне кветак падпісантам Акта Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года на могілках Росы.

У Сойме Літоўскай Рэспублікі адбудзецца дыскусія «Дзень Волі ў Беларусі. Цяперашняя сітуацыя, чаканне перспектывы». Час і месца: 14:00 – 16:00, Сойм Літоўскай Рэспублікі (Gedimino pr. 53), зала для прэс-канферэнцый.

Вечарам — святочны канцэрт Паліны Рэспублікі і выступ студэнтаў ЕГУ у межах праекта «Belarusian Dream Theatre». Час і месца: 18:30 – 20:00, Užupio kavinė (Užupio g. 2).

Са Святам, чытачы!

*http://nn.by/?c=ar&i=125339*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»